Ганна Шчуко

# СВЕТ ЛІТАР
## пані Понюшкі




беларускі алфавіт у 33 малюнках-гісторыях

УДК 821.161.3-93
ББК 84(4Беи)-44
Ш98

**Шчуко Г. А.**
Ш98 Свет літар пані Понюшкі : беларускі алфавіт у 33 малюнках-гісторыях / Ганна Шчуко. – Мінск : Медысонт, 2018. – 44 с.

ISBN 978-985-7199-34-1.

Кніга змяшчае 33 малюнкі з тэкстамі для ўсіх літар беларускага алфавіту. Сюжэт кожнага малюнка аб'ядноўвае словы, якія пачынаюцца на адпаведную літару ці маюць яе ўсярэдзіне. Кніга таксама ўключае ўвесь алфавіт на адным развароце і слоўнік-падказку.

Для дзяцей дашкольнага ўзросту, бацькоў, выхавальнікаў дзіцячых садкоў, настаўнікаў.

Па ўсіх пытаннях звяртайцеся да аўтара: ponushka.anki@gmail.com




УДК 821.161.3-93
ББК 84(4Беи)-44

ISBN 978-985-7199-34-1





Ганна Шчуко



# СВЕТ ЛІТАР пані Понюшкі




беларускі алфавіт у 33 малюнках-гісторыях






Мінск
«Медысонт»
2018

А вы ведалі, што часам літары ажываюць і нават могуць прыйсці да нас у госці?



Аднойчы я сядзела і думала пра літару А, і тут раптам розныя словы на А падбеглі да мяне – усе пераблытаныя, перамяшаныя – і папрасілі іх намаляваць. Я суняла словы, якія скакалі і гарэзілі, і акуратна размясціла некаторыя з іх на аркушы паперы. Так атрымаўся першы малюнак пра авечку Агату. Не прайшло і хвіліны, як да мяне падскочылі словы на літару Б і таксама папрасілі тонкімі галаскамі, каб іх намалявалі. А потым – словы на В, на Г, на Д і гэтак далей да самай апошняй літары алфавіту, пакуль кожная не атрымала сваю гісторыю. Я намалявала гісторыю нават пра маленькі сціплы апостраф, які, дарэчы, не лічыцца часткай нашага алфавіту.







Так утварыўся гэты чароўны, вясёлы, рознакаляровы і крыху дзіўны СВЕТ ЛІТАР, складзены з 33 маляваных гісторый. А апынуцца ў ім, каб пазнаёміцца з літарамі, вельмі проста: трэба толькі раскрыць гэтую кнігу.

Ваша пані Понюшка.





# Алфавіт

На гэтым развароце ёсць усе 32 літары беларускага алфавіту.

Апостраф (') не з'яўляецца літарай, гэта знак. Ён абазначае асобнае вымаўленне літар, якія падзяляе. Спалучэнні літар ДЗ і ДЖ таксама не ўваходзяць у алфавіт, але могуць выражаць самастойныя гукі. Літара Ґ сустракаецца нячаста і абазначае выбухное вымаўленне Г. Літара Ў — асаблівасць нашага алфавіту, яе няма ў іншых мовах.




А Б В Г Ґ

Д ДЗ ДЖ Е Ё Ж

З І Й К

Л М Н О

П Р С Т

У Ў Ф Х

Ц Ч Ш Ы

Ь Э Ю Я





# Аа

Авечка Агата заслала стол абрусам і прынесла з агарода свежыя ажыны і агрэст.
— Ах, як цудоўна пахнуць астры!
Яна накінула абхінанку, надзела акуляры і ўладкавалася ў крэсле. Авечка разглядае мастацкі альбом і чакае гасцей.

# Бб

Бойкі бусел Барыс у саламяным брылі б'е ў бубен: бам-бразь, бам-бразь!
Боты звонка тупаюць па брукаванай дарозе.
Квітнее бэз.



# Вв

На валошкавай палянцы расце вішнёвае дрэва. Усе збіраюць вішні!
Воўк Васіль у валёнках набраў вялікі ахапак. Вавёрка Вера і вожык Валер складаюць у вядро.



# Гг (Ґґ)

Галубка Ганна, апранутая ў гарсэт на ґузіках, нясе гляк малака і грушы ў кошыку. На ґанак хаты, крытай ґонтай і абсаджанай гладыёлусамі, выйшаў гіль Глеб.
— Гэй-гэй! — выгукнуў ён і гучна зайграў на гармоніку гапак.



# Дд

(дж, дз)

Дзяцел Дзям'ян дзяўбе стары дуб з дуплом: тук-тук, тук-тудук! Дзік Даніла збірае жалуды на абед.
Тут упалі першыя кроплі дажджу, узняўся вецер, і дзьмухаўцы адпусцілі свае дробныя пушынкі ў далёкае падарожжа.



# Ее

Увечары месяц свеціць ясна. Елкі пакрытыя снегам.
Егер Ерафей надзеў заплечнік і, пакідаючы след за следам, выйшаў аглядзець лес.



# Ёё

Ёг. Сямён імчыць па **лёдзе** на каньках і вязе купленыя ў аптэцы **ёд** і **мёд**.
Па **радыё** грае матлёт, а **лёзы** канькоў весела падпяваюць: жых-жых, жых-жых!



# Жж

Пакой асвятляе прыгожая **жырандоля**. Пан **Ж**ыгімонт **Жабка**, урачыста апрануты ў **жакет** з **жабо**, чакае за сталом.
— **Ж-ж-ж-ж**! — гэта гудзе **жук Ж**ора, ён прынёс на дэсерт **жэле**.





# Зз

**Зязюля** **З**іна **з**асталася ў лесе на **з**іму. Аднойчы ўзнялася **завея**. Руплівы **заяц** **З**міцер **з**але**з** на **зэдлік** і падзяліўся **зернем** са сваіх **з**апасаў.

— Частуйся, каб не **з**мёр**з**ла!

А на галінцы вісеў прывя**з**аны кімсьці **званок** і **з**агадкава **з**вінеў: дзінь-дзінь-дзінь!..

# Йй

Бярозавы **гай** поўніцца рознымі гукамі. Гудзе пчаліны **рой**, залятаючы ў **вулей**. **Салавей** Я**ў**се**й** звонка спявае ля гняздзечка з **яйкамі**.



# К к

Кот Кандрат ціха дрэмле на мяккай канапе ля шафы, поўнай кніг. На вешалцы вісіць кашуля, камізэлька і капялюш. У паветры чуваць салодкі пах кавуна. Напэўна, нехта толькі што чытаў казкі і на хвіліначку адышоў.



# Л л

Увечары вакно, упрыгожанае разьбяной ліштвай, расчынілася. На двор выглянула ліса Ларыса, каб паліць з палівачкі свае лілеі. Ластаўка Люба ласкава пасвяціла ёй ліхтаром.



# Мм

Мыш Марфа на градцы задаволена хрумсціць морквай. Па-над макамі пырхаюць матылькі Мірон і Міхась. Побач з імі кружляе малая мітуслівая мушка Марыся.



# Нн

На небе разгулялася моцная навальніца, людзі і звяры затуліліся хто куды. Норка Надзея ўладкавалася ў нары пад каранямі ясеня, а вандроўнік Навум схаваўся ў намёце.



# Оо

Горад ахінула вясновая ноч. На небе свеціць яркая поўня. З даху чуецца:
— Мяў-мяў! О, мя-я-я-у!
Гэта кот Лявон і котка Вольга спяваюць па нотах, быццам у оперы, оду зоркам.



# Пп

Паўлін Паўлюк грае на піяніна польку. Ён шпарка перагортвае ноты і ўпэўнена цісне на педалі. А певень Пятро, узняўшы парасон, спявае жартоўныя прыпеўкі.



# Рр

На беразе ракі растуць рабіны з гронкамі аранжавых ягад. Рыбак Рыгор вудзіць рыбу з самага ранку. Увечары ён вернецца дахаты на сваім чырвоным ровары.



# Сс

Вясёлы сабака Сяржук стаіць, прыхіліўшыся да стогу сена, і грае на скрыпцы. А ўверсе, на стажары, сядзіць сарока Соф'я і стракоча, пазіраючы на спелыя суніцы.



# Т т

Па рэйках хутка бяжыць **трамвай**: тух-тудух, тух-тудух! А ў ім таўкуцца **трусы** — цэлы тузін! Хтосьці трымае **торбу**, а хтосьці есць **трускаўкі**. **Трамваем** кіруе **тыгр-тата** Тодар, за ім захоплена назірае малое **тыграня** Тамаш.



# У у

Над лесам і полем **узнімаецца** сонца. Яно зыркімі промнямі асвятляе хату на невысокім **узгорку**. На драўляным **услоне** сядзяць дзед Уладзімір з **унукам** Усяславам. На іх тварах — **усмешкі**.



# Ўў

Маладая **дзяўчына** Аўгіння, адзетая ў вышываную кашулю з **каўняром**, сядзіць на верандзе. Яна спрытна прадзе **воўну** на **калаўроце**. Побач незаўважна паўзе **смоўж** Гаўрыла.



# Фф

Вакно прыкрыта лёгкімі **фіранкамі**, на падваконні стаяць вазоны з **фіялкамі**. Праз адчыненую **фортку** чуваць грукатанне. Франак сеў на падваконне, каб палюбавацца на святочны **феерверк**.



# Хх

У небе над **хвоямі** павісла цёмная **хмара**, а **хутар** быў яшчэ далёка. **Хлопец** **Х**арытон і дзяўчына **Х**адосся **х**утчэй пабеглі да**х**аты, **х**аваючыся ад дажджу пад вялікай **хустай**.



# Цц

**Цароўна** Та**цц**яна выйшла з **палаца** і рушыла да **царквы**.

— С**ц**еражыся **цмока**! — крыкнуў **цар** **Ц**іхамір. А **цмок** **Ц**ерах тым часам **ц**ікаваў і думаў, як бы с**ц**апаць **ц**удоўную **цароўну**.



# Чч

Уздоўж берага, парослага мячзўнікам, плыве човен. У чоўне стаіць чапля Часлава. Насустрач ляціць чмель Чэсь і нясе чабор.

— Якія ў вас добрыя чырвоныя чаравікі! — заўважыў чмель.

— А ў вас чароўны чабор! — адазвалася чапля.



# Шш

Ля шпакоўні на дрэве шчабеча шпак Мілаш. Сухое лісце шамаціць: шорх-шорх-шорх! Шчанюк Галляш у цёплай шапцы і шаліку ідзе з возера. Ён шчаслівы, бо ўлавіў шчупака.



# Ыы

Бык Кірыла ідзе ад млына, а насустрач крочыць мыш Ірына.

— Дабрыдзень! Што нясеш? — пытае бык.

— Сыр, — кажа мыш. — А гэта шыпшына табе на добры настрой.



# Ьь

Увесну сонца дорыць прамень за праменем, і мяккі цень кладзецца на снег. Рысь Альбіна і лось Андрусь выйшлі з лесу пагрэцца. Які цудоўны дзень!




# Ээ

Глушэц-настаўнік Ахрэм распавядае пра экалогію. Падняўся на зэдлік, піша на дошцы крэйдай і тлумачыць:
— Беражыце прыроду: эканомце электраэнергію.



# Юю

У бабулінай хаце ёсць печ з юшкай, люстэрка і ключ ад пуні. Юнак Юрка сядзіць на падлозе і круціць свой стары юрок, узгадваючы дзяцінства.





# Я я

Яхта імкліва плыве наперад. Янот Ягор — капітан, а яшчарка Якуб — матрос. На борце вісіць новы якар, а ў каюце ёсць правіянт — запас яблыкаў.



(апостраф)

Уначы надвор'е стаіць яснае і ў небе праглядаецца кожнае сузор'е. На ўзгор'і месціцца лясок, дзе жыве сям'я вераб'ёў.

— Ф'ю-ф'ю! — ціўкаюць птушаняты.

Пачысцілі пер'е — і спаць.

# Слоўнік-Падказка

Націск у словах абазначаны падкрэсліваннем. Памятайце, што ў беларускай мове літара О амаль заўжды пад націскам.

**Абхінанка** — вялікая цёплая хуста.
**Брукаваны** — (пра дарогу, плошчу і г.д.) роўна выкладзены камянямі.
**Брыль** — капялюш з шырокімі палямі.
**Гай** — невялікі, звычайна ліставы лес.
**Гарсэт** — жаночая камізэлька, часцей за ўсё на ґузіках ці шнуроўцы.
**Ґонта** — будаўнічы матэрыял для крыцця даху і сцен у выглядзе драўляных дошчачак.
**Гронка** — вялікая колькасць ягад ці дробных пладоў, якія шчыльна растуць на адной галінцы.
**Егер** — вартаўнік лесу і лясных жывёлаў.
**Ёг** — вельмі здаровы чалавек, які робіць фізічныя і духоўныя практыкаванні згодна з вучэннем ёгі.
**Жабо** — вялікі каўнер у выглядзе складак вакол шыі ці на грудзях.
**Жырандоля** — фігурны, багата аздоблены свяцільнік, які замацоўваецца на столі.
**Імжа** — ападкі ў выглядзе вельмі дробных кропелек вільгаці.
**Істопка** — гаспадарчая пабудова для захоўвання гародніны і садавіны.
**Калаўрот** — прылада для прадзення лёну і воўны ў хатніх умовах.
**Камізэлька** — прадмет адзення, які закрывае верхнюю частку тулава і не мае рукавоў і каўняра.
**Ліштва** — аздабленне вакна ў выглядзе накладных фігурных планак.
**Матлёт** — адзін з народных пабытавых танцаў; танчыцца парамі ў коле.
**Мячэўнік** — балотная расліна са шчыльнымі карычневымі суквеццямі на высокім сцябле; тое ж, што рагоз.
**Ода** — урачыстая песня, прысвечаная нейкай асобе ці падзеі.
**Полька** — хуткі народны парны танец, распаўсюджаны амаль па ўсіх краінах Еўропы.
**Правіянт** — харчовы запас для нейкай выправы.
**Пуня** — гаспадарчае памяшканне для захоўвання сена.
**Руплівы** — клапатлівы ці старанны.
**Стажар** — уваткнуты ў зямлю шост, вакол якога накідваюць стог сена.
**Трускаўкі** — салодкія ружова-чырвоныя буйныя ягады; тое ж, што клубніцы.
**Тузін** — адзінка колькасці, роўная 12.
**Фіранка** — заслона на вокны, найчасцей з тканіны.
**Хутар** — невялікае паселішча на адну сям'ю, адасобленае ад вёсак і гарадоў.
**Юшка** — засланка, якой зачыняюць комін печы, каб з хаты не выходзіла цёплае паветра.